РЭГІЯНАЛЬНЫ АГЛЯД: ГОРАДНЯ-ВІЛЬНЯ-БЕЛАСТОК ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 25 (80) 5 – 11 жніўня 1994 г. Кошт 300 рублёў

Ва ўсіх новаабраных кіраўнікоў партапаратнае ці саўмінаўскае мінулае. - ст.2.

У Аўстраліі па вуліцах вольна гуляюць кенгуру, якіх людзі з задавальненьнем кормяць з рукі - ст.4.

З першага дня ваўчыца настолькі палюбіла хлопчыка, што не адыходзіць ад яго ні на хвіліну. - ст.8.

ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ: Менск – Варшава – Масква – Санкт-Пецярбург.





## “З БРАТНЯЮ РУСЬСЮ...”

3-4 жніўня адбыўся рабочы візіт у Расею Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі. Падчас візіту Прэзідэнт правёў перамовы з Барысам Ельцыным і Віктарам Чарнамырдзіным.

Галоўным пытаньнем на перамовах з кіраўніцтвам Расеі ставілася аб'яднаньне грашовых сыстэм дзьвюх краін. Найперш з расейскім бокам абмяркоўваўся верасьнёўскі (1993) варыянт, які не супярэчыць Канстытуцыі Беларусі і, ў выпадку падпісаньня дамовы аб аб'яднаньні грашовых сыстэмаў, ня створыць вялікіх стратаў дзяржаўнаму сувэрэнітэту. Як заявіў А.Лукашэнка, такая дамова практычна падрыхтаваная.

Падчас перамоваў абмяркоўвалася пытаньне аб выплаце беларускім бокам доўгу за энэрганосьбіты, якія складаюць на сёньняшні дзень 16 трыльёнаў беларускіх рублёў. Пасьля сустрэчы з В.Чарнамырдзіным А.Лукашэнка зрабіў заяву: “Расейцы ня будуць патрабаваць выплаты доўгу.”

Дасягнута дамоўленасьць аб дадатковым продажы Беларусі расейскай нафты й газы. На думку беларускага Прэзідэнта, гэта дапаможа сабраць ураджай і ўвосень засеяць азімыя. Акрамя гэтага, абмяркоўвалася пытаньне ўдзелу Беларусі ў будаўніцтве газапровада з паўвострава Ямал ў Заходнюю Эўропу, які, згодна з праэктам, будзе пракладвацца праз тэрыторыю Беларусі.

Беларускі бок дамовіўся аб атрыманьні новых міжурадавых крэдытаў.

- Нам давядзецца рэфармаваць эканоміку, - сказаў А.Лукашэнка беларускім журналістам. - Расейскі бок з разуменьнем ставіцца да нашых праблемаў і згодзен яшчэ раз нам дапамагчы.

Падчас візіту была дасягнута дамоўленасьць аб тым, што Б.Ельцын у найбліжэйшы час, прыкладна ў сярэдзіне восені, наведае Беларусь з афіцыйным візытам.

Прэзідэнт і яго атачэньне стрымана выказваюцца аб выніках перамоваў. А.Лукашэнка заявіў, што ў бліжэйшы час сустрэнецца з сваім народам і асабіста давядзе аб стане спраў у эканоміцы. Магчыма, тады будзе дадзена ацэнка яго візіту ў Расею.

В.ДЗЬМІТРЫЕЎ.

## НЯБОЖЧЫКІ НА СТАДЫЁНЕ

Калі Скідаль быў раённым цэнтрам, для патрэбаў гараджан было заплянавана пабудаваць стадыён.

Будову распачалі напрыканцы 40-ых. Да нашых дзён пасьпелі зрабіць усяго некалькі тэнісных пляцовак, яму для прыбіральні ды высокі бэтонны плот.

Сёлета па загаду мясцовых уладаў тэрыторыю стадыёна перадалі пад могілкі.

Ільля БАРЫСАЎ.

## ПОСУД БУДЗЕ, БЫЛО Б НАПАЎНЕНЬНЕ

На шклозаводзе ў Горадні пачалі выраблять новыя віды прадукцыі: бутэлькі ёмістасьцю 0,5 (піўныя) і 0,7 літра. Вытворчыя магутнасьці прадпрыемства дазваляюць выпускаць іх за суткі да 400 тысяч штук. Частка прадукцыі будзе накіроўвацца ў Расею.

Дагэтуль на заводзе выраблялі ёмістасьці пад “шампанскае” й некаторы час - пад малако.

## ДАБРАДЗЕІ З БАКАЛЕІ НЕ ДАЮЦЬ КУРЦАМ НАДЗЕІ

З 10 жніўня зноў запрацуюць вытворчыя магутнасьці Гарадзенскай тытунёвай фабрыкі “Нёман”. Справа ў тым, што з 4 ліпеня на прадпрыемстве праводзіцца плянавы капітальны рамонт. Але ж прадукцыі выраблена дастаткова, каб забясьпечыць патрэбы курцоў.

Паступовае зьнікненьне з паліцаў дзяржаўных крамаў Горадні тытунёвых вырабаў, выпускаемых прадпрыемствам, на фабрыцы тлумачаць тым, што база бакалеі ня робіць заказаў, што яна нават ні ў поўным аб'ёме разьлічылася за папярэднія.



Нядаўна на адрас Гарадзенскага мікрахірургічнага цэнтру прыйшла гуманітарная дапамога. Зьмесьціва чатырох аб'ёмістых скрынак - навюткія электронныя лямпы для дасьледаваньняў захворваньняў нэрвовай сістэмы, крышталіка й тыльнай камэры вока.

## ВАМ – ПАСЛУГА, НАМ – РУБЛІ

На камбінаце будаўнічых матэрыялаў Горадні адкрылася фірмовая крама па продажу насельніцтву разнастайных будаўнічых матэрыялаў. Кошты ў краме на пясчана-вапністую сумесь, цэглу, блёкі ніжэй на 25-30 працэнтаў, чым у аналягічных гандлёвых кропках горада.

На думку адміністрацыі, свая крама па продажу будматэрыялаў насельніцтву істотна папоўніць касу камбінату наяўнымі рублямі.

Г.ГРАНЬДЗІЦКІ.

## ЦІ ПЕРАМОЖА ДЫЛЕР СПЭКУЛЯНТА

Па зьвестках, атрыманых ад атачэньня Аляксандра Лукашэнкі, у найбліжэйшы час Прэзідэнт падпіша ўказ, які павінен “пакласьці канец нецывілізаванай спэкуляцыі”. На думку супрацоўніка адміністрацыі, пасрэдніцтва й спэкуляцыя - розныя рэчы. Ён таксама выказаўся на карысьць “прынятай ва ўсім сьвеце сістэмы дылераў”.

## СТВОРАНА НОВАЯ ПАРТЫЯ

Напярэдадні парлямэнцкіх выбараў створана новая партыя - Сацыялістычная партыя Беларусі. Яе ўзначаліў першы намесьнік сьпікэра парлямэнту В.Кузьняцоў. Устаноўчы зьезд партыі адбыўся 28 ліпеня ў поўнай таямніцы, журналістаў на ім не было. Пра мэты яе можна меркаваць па “Палітычнай заяве ўстаноўчага зьезду Сацыялістычнай партыі Беларусі”: ”Мы цьвёрда ўпэўнены ў тым, што Садружнасьць Незалежных Дзяржаў ператворыцца ў Саюз Незалежных Дзяржаў, ня толькі ў эканамічны, але і ў палітычны". Па некаторых дадзеных, зьезд гэтай партыі павінен быў адбыцца 25 чэрвеня. Лідарам яе плянаваўся В.Ф.Кебіч. Але яго пройгрыш у першым туры прэзідэнцкіх выбараў значна зьмяніў планы “сацыялістаў”.

## НЕСУМЛЕННЫ ПРАЦЯГВАЕ КІРАВАЦЬ

Інспэкцыя па асабоваму складу МУС Беларусі скончыла зацягнуўшуюся “вайну” з начальнікам Віцебскага аддзела па барацьбе з арганізаванай злачыннасьцю палкоўнікам Казловым. На яго лецішчы ў красавіку бягучага года быў знойдзены раней канфіскаваны “абэзьцамі” каньяк.

Нягледзячы на хадайніцтва кіраўніцтва МУС па Віцебскага абласвета даць згоду на звальненьне дэпутата Казлова з пасады начальніка АБЭЗ, сэсія вабласнога “парлямэнта” не пажадала задаволіць просьбу міністэрства. Ня здолеўшы звольніць несумленнага палкоўніка, былы міністр унутраных справаў генэрал Данько панізіў Казлова на адзін ранг. У выніку штрафнік-падпалкоўнік працягвае кіраваць Віцебскім аддзелам па барацьбе з арганізаванай злачыннасьцю.

## З ЦЭНТРАЛЬНАГА БАНКУ РАСЕІ ЛЕДЗЬВЕ НЯ СКРАЛІ 68 МІЛЬЯРДАЎ

Выключны па памерах крадзёж - 68 мільярдаў рублёў спрабавалі зьдзейсьніць у Маскоўскім РКЦ (кампутарным цэнтры) Цэнтрабанка невядомыя праграмісты. Па меркаваньню экспэртаў і спэцыялістаў МУС, гэта рабілі прафэсіяналы, якія выдатна ведаюць тэхналёгію апрацоўкі дадзеных у РКЦ. Цікава, што спроба крадзяжу была выяўлена выпадкова.

СІМ

## ГРУЗІЦЕ "ЗАЙЦОЎ" БОЧКАМІ

Хуткае падвышэньне мінімальнага заробку й час летняга адпачынку, калі патрэба ў наяўных грошах значна ўзрастае, прывялі да таго, што сёньня ў рэспубліцы моцна адчуваецца недахоп наяўных сродкаў. У сувязі з гэтым часова ўмацаваўся й курс беларускага рубля ў адносінах да даляра, паколькі наяўныя валюты значна перавышае попыт на яе. Аднак, па словах кіраўніка Нацыянальнага банку С.Багданкевіча, атрыманых з неафіцыйных крыніц, у Расеі запушчаны станкі па вырабу разьліковых білетаў Нацыянальнага Банку і праз тыдзень-два можна чакаць паступленьня наяўных.

## ЦЕШЧЫН ПАДРАД

Шалёўку, брускі, дошкі для падлогі, кроквы на ўласна сканструяванай цыркулярцы вырабляе гарадзенскі інжынер-канструктар А.К., які працуе на дрэваперапрацоўчым камбінаце.

Цыркулярку спадар Аляксандр устанавіў на падворку ў цешчы. Апошняя прымае замовы й вядзе ўлік.

- Для мяне гэта добры прыробак да зарплаты, - гаворыць уладальнік цыркуляркі.- Замовы выконваю толькі з сыравіны заказчыка. За доўгае захаваньне вырабу бяру камісыйныя.

Сваім хобі гарадзенец задаволены, бо за кароткі тэрмін работы на цыркулярцы з прыбытку змог набыць патрыманы легкавік “ВАЗ”.

Г.Н.

## ДЛЯ КАГО – СЬВЯТА, ДЛЯ КАГО – ЗВЫЧАЙНЫ ДЗЕНЬ

Для работнікаў інстытута “Гроднасельбудпраэкт” 27 ліпеня па рашэньню адміністрацыі стаў рабочым днём. Напярэдадні ім было аб'яўлена, што заўтра ўсе абавязкова павінны зьявіцца на службу.

Галоўны інжэнер інстытута М.Кохан, якога мы папрасілі растлумачыць, чаму “Гроднасельбудпраэкт” так дзіўна “адзначыў” Дзень Незалежнасьці, паведаміў, што на гэта была агульная згода калектыву. На самой справе шэраг работнікаў установы быў незадаволены гэтым, але ж і асаблівага абурэньня ня выказаў. Хто ж рызыкне выклікаць гнеў кіраўніцтва, каб потым быць звольненым?

А.ДУК.



КВЕТКІ ДА ПОМНІКА “ПАГОНЯ НА ГРУНВАЛЬД” У ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ.

Фатаграфаваў В.ГАРОШКА.

## ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

Гарадзенская арганізацыя Народнага Фронту адзначыла Дзень Незалежнасьці. Савецкая вуліца Горадні, здавалася, пасьвятлела ад мноства бел-чырвона-белых сьцягоў. Прахожыя са зьдзіўленьнем і цікаўнасьцю глядзелі на вясёлых, па-сьвяточнаму апранутых людзей, якія гуртаваліся бліз гарадзенскай філіі Культурна-асьветніцкага Фонду "Бацькаўшчына".

Прагучала каманда, і гурт хуценька ператварыўся ў калёну. Наперадзе - старшыня Гарадзенскай Рады Беларускага Народнага Фронту Кастусь Жынь. Дзяўчаты, а іх нямала ў калёне, пяюць "Пагоню" Максіма Багдановіча. На сэрцы ўзьнёсласьць, лёгкасьць. Шэсьце праходзіць вуліцай Замкавай і мкне ўздоўж Нёмана да памятнага знаку "Пагоня на Грунвальд". Дэманстранты становяцца абапал знаку, пяюць, ускладаюць букеты кветак. Спадар К.Жынь трымае кароткую прамову. Ад знаку "Пагоня на Грунвальд" шэсьце працягваецца па алеях Новага парку й па вузкіх вулках рухаецца ў кірунку дома, дзе жыў і працаваў адзін з заснавальнікаў сучаснага беларускага адраджэньня прафэсар Міхась Ткачоў.

Зьдзіўленыя зьяўленьнем на сваіх вузенькіх вулках мноства дзяржаўных сьцягаў, гарадзенцы выбягаюць са сваіх двароў. Іх вітаюць дэманстранты. Расчуленыя людзі згаджаюцца, што Беларусі трэба быць незалежнай. На сутыч вуліцы Каліноўскага й прашпэкту Будаўнікоў шэсьце прыпынілася, бо людзі, каб падтрымаць дэманстрантаў ад сьпякоты, вынесьлі вёдры з вадой і кубкі...

Сьветлую памяць спадара Міхася Ткачова ўшаноўваюць букетамі гладыёлусаў. Пра жыцьцё й справы гісторыка М.Ткачова ў Горадні прамаўляе прафэсар ГДМІ спадар А.Астроўскі.



## УСПОМНІМ УСІХ ПАЙМЕННА

Ад дому, дзе жыў М.Ткачоў, дэманстранты накіроўваюцца на могілкі да магілы А.Н.Карпюка. Дзяржаўныя штандары схілены над месцам апошняга прытулку гарадзенскага рупліўца за праўду. Аб яго нялёгкім жыцьці апавядае У.А.Кісель. Жанчыны прыбіраюць магілу, запальваюць сьвечкі.

Таксама была ўшанавана памяць акадэміка Ю.М.Астроўскага й прафэсара С.Юпатава.

На жаль, афіцыйныя ўлады не заўважылі ў гэты сьвяточны дзень тых, хто стаяў тут, ў Горадні ля вытокаў беларушчыны.

**Г.А.**

## ЦІХАЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ

«Гродзенская праўда» напярэдадні Дня Незалежнасьці надрукавала запланаваныя мэрапрыемствы: урачыстае ўскладаньне кветак, адкрыцьцё выстаў, фэстываль песьні, народныя гуляньні ў розных канцах горада й многае іншае. Я нават пашкадаваў, што, напэўна, паўсюдна ня здолею трапіць. Але...

Яшчэ 26 ліпеня ў Новым замку адкрывалася выстава "Гістарычныя асобы Беларусі". Аднак якім было маё зьдзіўленьне, калі выставу адкрылі на гадзіну раней. Супрацоўніцы музэя патлумачылі, што ўсё ўжо скончана, і госьці разышліся. А раней - таму што, маўляў, скарочаны працоўны дзень. Праўда, яны ўсё ж пагадзіліся адчыніць залу, і я пабачыў працы менскіх мастакоў Валяньціна Варэца і яго жонкі Ляілі Варэц.

Выстава ўразіла: сярод славутых беларусаў князі Гэдэмін, Альгэрд, Кэйстут, Эўфрасіньня Полацкая, Канстаньцін Астрожскі, Мікола Гусоўскі, Францыск Скарына, Радзівілы, кароль Жыгімонт, Астафей Валовіч, Сымон Будны, Васіль Цяпінскі, Стэфан Баторы, Леў Сапега, Сімеон Полацкі, Міхаіл Агінскі, Тадэвуш Касьцюшка, Напалеон Орда, Казімір Семяновіч, Кастусь Каліноўскі... У асобных людзях сабрана ўся наша гісторыя, і выканана ўсё прыстойна й прафэсійна.

На жаль, ніводзін з мастакоў не прыехаў у Горадню. У кароткай даведцы я толькі прачытаў, што Валяньцін Іванавіч нарадзіўся ў Цьвярской вобласьці, а яго жонка - у Харкаве.

А адзінаццатай гадзіне наступнага дня з аблвыканкама выйшла невялічкая група людзей з кветкамі й накіравалася ў парк Жылібэра да помніка Невядомаму салдату. Кветкі ўсклалі моўчкі. Як на памінках. Першых асобаў а ні з гарвыканкама, а ні з аблвыканкама не было. Узначальвалі гэтую траурную працэсію намесьнікі старшыні аблвыканкама М.Калацэй і А.Пашкевіч. Я разумею, што, магчыма, менавіта зараз нашыя кіраўнікі ў законных адпачынках, але, з другога боку, цалкам ня выключаю й таго, што Домаш і Крупенка палівалі гуркі на лецішчах.

Бо, вядома ж, такая сьпёка, усё гіне.

Людзей таксама не было. Нават ня ўсе міліцыянты апрануліся ў сьвяточную форму. Напачатку цеплілася спадзяваньне, што, можа, хоць зробяць нейкі сьвяточны стрэл жаўнеры з беларускага войска. Але дзе там. Яны толькі моўчкі пастаялі. Зараз жа й патроны каштуюць дорага.

У шаснаццаць гадзін па праграме адкрыцьцё выставы гарадзенскіх мастакоў. Наведвальнікаў не было, а мастакі таксама, напэўна, палівалі гуркі на лецішчах.

Урэшце народныя гуляньні ў гарадзкім парку. У 18.20 духавы аркэстр сабраў манаткі й пацягнуўся да Дома культуры...

Вось такая ў нас Незалежнасьць, спадарства.

**М.МІКАЛАЙЧЫК.**
**27 ліпеня 1994 года, Горадня.**

# ФРОНТ НАСТРОЕНЫ РАШУЧА

23 ліпеня адбылася Соймавая канфэрэнцыя БНФ. З дакладам па асноўным пытаньні - "Аб палітычным становішчы, задачах Фронту й выбарах у Вярхоўны Савет" - выступіў **Старшыня БНФ Зянон ПАЗЬНЯК.** Ён адзначыў, што вынікі выбарчай кампаніі нельга расцэньваць адназначна. Кандыдат ад Фронту не прайшоў, але Фронт умацаваў свае пазыцыі.

На працягу чатырох гадоў Фронт крытыкаваў палітыку Вярхоўнага Савета і Ўраду. Ён стварыў умовы, якія дазвалялі грамадзтву вызначыцца. І яно вызначылася - як апазыцыя ў адносінах да ўладаў. Але на падрыхтаваную глебу прыйшоў іншы чалавек. Ён абяцаў простыя рэчы: спыніць рост цэнаў, "запусьціць" заводы, разагнаць стары ўрад. І большасьць выбаршчыкаў, незадаволеная ўладамі, паддалася на гэты папулізм, не задумваючыся, якім чынам будуць выконвацца гэтыя абяцанкі.

Кароткі тэрмін агітацыйнай кампаніі не дазволіў нам поўнасьцю разьбіць створаны стэрэатып успрыняцьця Фронта як разбуральнай сілы. Але шмат што зроблена. Прадэманстравана, што Фронт - фактычна адзіная арганізаваная сіла, якая мае канструктыўную праграму выйсьця з крызісу й моцную каманду спэцыялістаў высокага інтэлектуальнага ўзроўню. Відавочна, што пэрспэктывы на паляпшэньне сытуацыі ў краіне зараз няма. Выбары кіраўнікоў ураду паказалі, што адбылося яднаньне старой і новай намэнклятуры. Гэтыя людзі не валодаюць рынкавым мысьленьнем, сапраўдныя рэформы яны праводзіць ня будуць.

Нашы дачыненьні з Прэзідэнтам зараз - не крытыкаваць яго на працягу 100 дзён, калі толькі ён ня будзе парушаць Канстытуцыю. Мы можам даваць у прэсе агляды, ацэнкі, інфармацыю, але такім чынам, каб не даваць падставы каманьдзе Лукашэнкі заявіць, што Фронт перашкаджае ім працаваць.

У той жа час Фронт павінен дапамагчы людзям зразумець сытуацыю. Народ чакае, што БНФ будзе дапамагаць Лукашэнку змагацца з карупцыяй. І мы будзем рабіць гэта. Праз спэцыяльна створаныя камітэты, праз дэпутатаў мясцовых Саветаў мы будзем публічна выкрываць факты карупцыі. Адначасова трэба ўмацоўваць канструктыўны імідж Фронту. Эканамічная сытуацыя будзе пагаршацца, і ва ўмовах магчымага абвалу людзі будуць шукаць, на каго абаперціся. Гэта наш абавязак перад Беларусьсю - у рашучы момант узяць на сябе адказнасьць, прапанаваць людзям апірышча, не дапусьціць, каб грамадзтва апынулася ў стане хаосу.

**Народны дэпутат Л.БАРШЧЭЎСКІ** падтрымаў думку З.Пазьняка аб умацаваньні канструктыўнага вобразу Фронта. Гэта павінна рабіцца ня толькі праз рэспубліканскую прэсу, але й праз мясцовую, а таксама й на пабытовым узроўні, праз асабістыя кантакты.

Трэба ўлічваць, што не за гарамі выбары, і перадвыбарчую кампанію Фронт фактычна ўжо распачаў. Вельмі важна вызначыцца ўжо сёньня адносна магчымых кандыдатаў у дэпутаты. У новым Вярхоўным Савеце патрэбны будуць не разбуральнікі, а ствральнікі. Пэрспэктыву прайсьці ў новы Вярхоўны Савет маюць вядомыя на месцах людзі, у якіх нешта ёсьць за сьпіной, і, ў першую чаргу, сумленныя дактары, юрысты, талковыя інжынеры. Калі такіх людзей няма ў Фронтаўскіх суполках, трэба іх шукаць, пераконваць, прыцягваць у Фронт.

**Народны дэпутат В.ГОЛУБЕЎ** распавёў аб выбарах кіраўніцтва ўраду, прадстаўленага Лукашэнкам. Новаабраныя кіраўнікі - зусім ня новыя людзі, ва ўсіх іх партапаратнае ці саўмінаўскае мінулае. Наўрад ці яны будуць працаваць па-новаму й выпраўляць тое, што яны ўжо нарабілі. Цяжка спадзявацца на нейкія зьмены ў прамысловасьці, сельскай гаспадарцы, бо кіраўнікі засталіся тыя ж. Нават прыход новага міністра замежных спраў, маладога прагматыка Сянько не дае падстаў чакаць зьмен у зьнешняй палітыцы, бо яна будзе вызначацца Прэзідэнтам. Прызначэньне міністрам абароны Кастэнкі паказвае, што ўцягненьне Беларусі ў сфэру расейскай палітыкі будзе адбывацца праз вайсковыя дачыненьні.

У адбыўшайся дыскусіі ўзяў удзел **доктар сельскагаспадарчых навук прафэсар І.НІКІТЧАНКА**, які адзначыў як правільны й станоўчы момант рашэньне аб рэфармаваньні ценявога габінэта Апазыцыі БНФ. Ён паведаміў аб вельмі неспрыяльным прагнозе разьвіцьця ў бліжэйшы пэрыяд аграпрамысловага комплексу. **Сябра Сойму БНФ З.АБРАЗЦОЎ** давёў, што ўвагу трэба засяродзіць на стварэньні Свабодных прафсаюзаў. У будучай перадвыбарчай праграме Фронту, на думку З.Абразцова, абавязкова павінен быць адлюстраваны тэзіс аб тым, што чалавек мае права на вынікі сваёй працы.

Меркаваным выбарам ў Вярхоўны Савет быў прысьвечаны другі пункт парадку дня. **Сакратар Управы В.ІВАШКЕВІЧ** зазначыў неабходнасьць стварэньня Фронтаўскіх структураў у тых раёнах Беларусі, дзе іх яшчэ няма. Ужо зараз суполкам і Радам трэба выходзіць на прадпрымальнікаў, каб забясьпечыць матэрыяльную падтрымку выбарчай кампаніі. Да верасьнёўскага Сойму неабходна вызначыцца з кандыдатамі ў дэпутаты. Управа Сойму наладзіць канфэрэнцыі ці сэмінары для кандыдатаў, але трэба памятаць, што асноўны цяжар перадвыбарчай працы ляжа на саміх кандыдатаў і мясцовыя арганізацыі БНФ.

**Сябра Сойму Ул.АНЦУЛЕВІЧ** сказаў, што, нягледзячы на тое, што ў прэзідэнцкіх выбарах Фронтаўскі кандыдат не прайшоў, Фронт атрымаў найлепшыя стартавыя ўмовы для правядзеньня наступнай выбарчай кампаніі. Зараз наша галоўная задача - давесьці да людзей, што адзіночка нічога сур'ёзнага ня здолее зрабіць. Наша перавага - арганізацыя.

Складаючы перадвыбарчыя праграмы нашых кандыдатаў, трэба абавязкова адлюстраваць у іх мясцовыя праблемы. Іх не павінна быць шмат, лепш за ўсё - адзін-два яскравых накірунка дзейнасьці. Як магчымы прыклад, сп.Анцулевіч прапанаваў агульную для ўсіх праблему рэфармаваньня ворганаў мясцовага самакіраваньня.

**Сябра Сойму В.ЧУЙКО** нагадала, што нельга выключаць магчымасьць прыняцьця такога закона аб выбарах, згодна якому права ўдзелу ў іх атрымаюць толькі палітычныя партыі. Таму было прапанавана неадкладна аднавіць работу па юрыдычным афармленьні мясцовых структур партыі БНФ з тым, каб поўнасьцю скончыць рэгістрацыю ў канцы верасьня.

**В.ЧУЙКО.**

## РЫХТУЕМСЯ ДА ПАРЛЯМЭНЦКІХ ВЫБАРАЎ

У мінулую нядзелю ў Лідзе адбылася вабласная канфэрэнцыя Беларускага Народнага Фронту. На ёй падрабязна былі прааналізаваныя вынікі прэзідэнцкіх выбараў у краіне й абмеркаваныя першыя захады па падрыхтоўцы да новых парлямэнцкіх выбараў.

Адно з пытаньняў датычылася ўтварэньня свабодных прафсаюзаў, якія маглі б па-сапраўднаму бараніць правы рабочых. Як адзначалася на канфэрэнцыі й падчас выбараў, і зараз з боку ўладаў адчуваўся й адчуваецца ціск на прадстаўнікоў Народнага Фронту, а многім і дагэтуль пагражаюць звальненьнем з працы.

На канфэрэнцыі прысутнічаў старшыня Савету Свабодных прафсаюзаў Беларусі Г.Быкаў, а таксама прадстаўнік Фонду падтрымкі Дэмакратычных рэформаў імя Л.Сапегі, які давёў прысутным аб рабоце сваёй арганізацыі.

**(ав).**

## ЗА ЗАХАВАНЬНЕ ЯДЗЕРНАГА СТАТУТА БЕЛАРУСІ

"Партыя свабоды выступае за захаваньне ядзернага статута Беларусі й захаваньне гарантый ядзернай бясьпекі Харватыі".

Аб гэтым заявіў адзін з лідараў партыі Сяржук Высоцкі. Па яго словах, партыя свабоды бачыць Беларусь моцнай дзяржавай, якая будзе адыгрываць значную ролю ў эўрапэйскай палітыцы. Саюзьнікамі Беларусі спадар С.Высоцкі найперш бачыць Нямеччыну й Харватыю - дзяржавы, якія, на яго думку, будуць зараз мець большую ролю ў Эўропе, паколькі яны, на яго думку, больш за іншых "пакрыўджаныя" пасьля другой сусьветнай вайны. "Мы лічым, - сказаў лідар партыі, - што Нямеччына зможа дапамагчы замацаваць незалежнасьць Беларусі ад такога монстра, як Расея, якая зараз вядзе імпэрскую палітыку ў адносінах да нашай дзяржавы". Ён таксама прытрымліваецца думкі, што харвацкі й беларускі народы вельмі пакутуюць ад сербскага й расейскага імпэрыялізму. Зыходзячы з гэтага, спадар Высоцкі лічыць неабходным, каб Беларусь дала Харватыі гарантыі ядзернай бясьпекі.

Аргкамітэт партыі свабоды створаны летась. ПС пакуль не зарэгістраваная, але ўжо налічвае каля 200 сяброў. У яе ўваходзяць у асноўным маладыя людзі ва ўзросьце 20-22 гадоў.

## КАНФЭСІІ

### ХТО БУДЗЕ СЛУЖЫЦЬ ІМШУ ПА-БЕЛАРУСКУ?

Нядоўга цешыліся гарадзенскія беларусы-каталікі Сьвятой імшы, што гучала на беларускай мове штонядзелю а 15-ай гадзіне ў Фарным касьцёле Горадні.

Ксяндза Анатоля, прыхільніка беларушчыны й дарадцу беларусаў-каталікоў, кіраўніцтва Гарадзенскай каталіцкай эпархіі вырашыла перавесьці на іншае месца службы - ў горад Наваградак.

**Г.ДАМІНІКАНСКІ.**

## КРЫЖ ЭЎФРАСІНЬНІ ПОЛАЦКАЙ БУДЗЕ АСЬВЕЧАНЫ Ў ІЕРУСАЛІМЕ

Берасьцейскі мастак Мікалай Кузьміч, які аднаўляе беларускую сьвятыню - крыж Эўфрасіньні Полацкай - разам з Уладыкам Філярэтам адправіцца ў Іерусалім. Мяркуецца, што аснова новага крыжа, зробленага з кіпарыса, будзе асьвечана на труне Гасподняй. Акрамя таго, падчас паломніцтва на зямлю абяцаную кіраўніцтва экзархату Беларусі мае намер станоўча вырашыць пытаньне аб атрыманьні ў якасьці падарунка вырабаў з золата й іншых каштоўных мэталаў, якімі павінен быць упрыгожаны крыж.

**СІМ**

# АХОЎНІКАЎ-ПРАФЭСІЯНАЛАЎ РЫХТУЮЦЬ У ГОРАДНІ

Умоўны званок - дзьверы аднаго з гарадзенскіх атлетычных клюбаў адчыніліся. Спраўдзіўшы дакумэнты, высокія дужыя хлопцы праводзяць мяне да залы. Заля невялікая, якіх 100 мэтраў квадратных, у ёй цяжкое кіслае паветра. Насутыч адзін другому па залі змантавана дзесятка два разнастайных атлетычных снарадаў, на якіх натхнёна трэніраваліся атлеты. У бакоўцы залі душавая, праз паўадчыненыя дзьверы якой заўважаю душ Шарко і каскад. Мая цікаўнасьць да інтэр'еру й абсталяваньня залі нэрвуе маіх спадарожнікаў. Той, што зьлева ад мяне, паказвае ісьці наперад. У супрацьлеглым куце знайшліся яшчэ адны дзьверы. Праважатыя адчыняюць, і я, ступіўшы некалькі крокаў, трапляю ў невялічкае памяшканьне. Тут прахалода й ціш. За невялічкім столікам двое. Добразычлівыя ўсьмешкі... Гаспадары называюць свае імёны - Вэн і Клёд. Яны ў мінулым служылі ў спэцназе. Вэн больш гаманлівы.

- Значит, вы хотите написать о том, что в Гродно мы готовим охранников-профессионалов. Давайте сразу определимся. Наше заведение полулегальное. Адрес и его название вы в своей статье не упоминаете, а в остальном - полный вперед!

У знак згоды ківаю галавой, і Вэн пад камэнтары Клёда распачынае аповяд.

Ідэя стварыць школу па падрыхтоўцы ў Горадні ахоўнікаў-прафэсіяналаў даўно не давала спакойна спаць Вэну. Ён ведаў, што ў Горадні на карысьць польскіх камэрсантаў працуюць добраахвотнікі з ліку былых культурыстаў, баксёраў, барцоў, прычым, на аматарскім узроўні. Трапляць у іх асяроддзе не было ахвоты. Вэна заўжды вабіў прафэсіяналізм у справе. Знайсьці патрэбнае памяшканьне й аднадумцаў ня цяжка. Але дзе знайсьці трэнэраў для тых, хто прыйдзе атрымаць веды й фізычную падрыхтоўку. Вэн на працягу года прывозіў з замежжа патрэбную літаратуру. Яны з Клёдам авалодалі сакрэтамі рукапашнага бою. Зараз у клюбе трэніруюцца больш за 30 чалавек. Заняткі праходзяць 5-6 разоў на тыдзень. У праграме тэарэтычная, агульнафізічная й спэцыяльная падрыхтоўка. Навучальны дзень працягваецца 4 гадзіны. Праграма разьлічана прыкладна на адзін год. Выпуску курсантаў тут не бывае. Сюды прыходзяць тыя, хто сёньня працуе ў прыватных асобаў. За кожны дзень падрыхтоўкі трэба плаціць. Колькі - гэта сакрэт фірмы. Бяз штодзённай аплаты да залі няма ўваходу. Канешне, у сёньняшнім выглядзе школа па падрыхтоўцы ахоўнікаў-прафэсіяналаў ня вельмі задавальняе Вэна з калегамі. Яны жадаюць яшчэ стварыць клас электроннай тэхнікі, клас па вывучэньню вадзіцельскага майстэрства, а таксама, без чаго ня можа надалей існаваць школа, - гэта курс па вывучэньню й валоданьню агнястрэльнай і халоднай зброяй. У сваю пэрспэктыву Вэн верыць, бо час выстаўляе новыя й новыя патрабаваньні. Нараджаецца новы клас заможных людзей. Бяз добрай аховы ім не абыйсьціся. Вось тады, калі гэты клас запануе, паўстане вялікая патрэба ў прафэсіяналах. Для іх падрыхтоўкі будуць прыняты адпаведныя законы. На грунце законаў можна будзе выйсьці з падпольля й па-сапраўднаму разьвярнуцца. А пакуль няма ўмоў, Вэн сьпяшае набрацца як мага больш арганізатарскага й кіраўнічага вопыту. Калі справа пойдзе на паток, вучыцца будзе позна.

**П.ПЕТРЫКЕВІЧ.**

# ЦЭНТР РЭАБІЛІТАЦЫІ ДЛЯ ВОІНАЎ-ІНТЭРНАЦЫЯНАЛІСТАЎ

Каля 15 мільярдаў рублёў бюджэтных асігнаваньняў затраціў беларускі ўрад на арганізацыю й абсталяваньне ў Віцебску першага й пакуль адзінага ў СНД рэспубліканскага Цэнтру мэдыцынскай рэабілітацыі воінаў-інтэрнацыяналістаў. Трэцяя частка гэтай сумы была выплачана былому ўладальніку будынка - заводу "Эвістар", які збудаваў для сябе сучасны прафілякторый, але адмовіўся ад яго па фінансавым прычынам.

Стацыянар Цэнтру можа прыняць адначасова 100 чалавек. Лекавацца тут змогуць ня толькі ветэраны афганскай вайны, але й члены іх сем'яў, якія маюць патрэбу ў мэдыцынскай дапамозе.

Галоўным урачом санаторыя прызначаны старшыня вабласной арганізацыі ветэранаў вайны ў Афганістане мэдык-франтавік Станіслаў Гаварушкін.

**І.ПЯТРОЎ, г.Віцебск.**

# ШЧАСЬЦЯ ЖАДАЮЦЬ АД ІМЯ БССР

У Вердамскім сельскім Савеце Сьвіслацкага раёна яшчэ дагэтуль жывуць часамі БССР і ніяк ня хочуць з імі разьвітвацца. Падчас шлюбнай цырымоніі старшыня сельсавета ўрачыста, пасьвяточнаму, на беларускай мове віншуе маладых з утварэньнем новай сям'і і ад імя Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі аб'яўляе іх мужам і жонкай.

А на двары стаіць ліпень 1994 года. У зале, дзе адбываецца сьвяточная цырымонія, на сьцяне вісіць Пагоня - дзяржаўны гэрб Рэспублікі Беларусь. Напэўна, у іх двоеўладдзе...

**(ав)**

# КАЛОЖА
## РЭСТАЎРАЦЫЯ ПАЧАЛАСЯ, або ПАЛКІ Ў КОЛЫ



У адным з гарадзенскіх выданьняў, што фінансуюць пратэстанты, чытаў пра тое, што Каложа не патрабуе такой увагі, якая ёй надаецца, бо, маўляў, яна ўсё адно рухне, а мы маем яшчэ больш за дзесятак каштоўных помнікаў гісторыі й культуры. Так, ёсьць ганарліўцы, якія не жадаюць ведаць нічога, што не ўваходзіць у кола іх інтарэсаў. Калі ж быць больш дакладнымі, дык трэба ведаць, што сапраўды наша дзяржава валодае вялікай колькасьцю помнікаў незьлічонай каштоўнасьці, а Каложа сярод іх - брыльянт першай велічыні. Вось пра гэта, чамусьці, сказана не было.

Час ад часу жыхары рэспублікі атрымліваюць інфармацыю аб Каложы, але гэта толькі момант з жыцьця нашага прыходу, які апынуўся ў незайздросным становішчы.

Як высьветлілася, на працягу чатырох гадоў пасьля таго, як Каложа зноў была перададзена праваслаўнай царкве, ішла толькі размова пра рэстаўрацыю, справа ж з месца ня рухалася.

Мы ня ведаем, колькі Гасподзь адлічыў часу да таго, каб не было новага абвалу й пагэтаму чатыры каштоўныя гады былі практычна упушчаныя. Замест разважаньняў, перш наперш трэба было рабіць працы па даадшукваньню грунту, на якім стаіць храм. Затым на працягу года павінна была дзейнічаць сістэма за назіраньнем канструкцыі будынку царквы й паверхні тэрыторыі зямельнага ўчастка, што пры царкве. Апошняе неабходна, каб пацьвердзіліся на практыцы тэарытычныя высновы па даадшукваньню грунту. Разам з тым трэба было распрацаваць тэхніка-эканамічнае абгрунтаваньне. Потым гэтае абгрунтаваньне павінна было прайсьці экспэртызу, каб ажыцьцявіць самы аптымальны й недарагі варыянт узмацаваньня грунту, на якім стаіць царква. Але ўсё гэта толькі папярэднія работы перад непасрэднай рэстаўрацыяй храма. Трэба было яшчэ ўлічыць і тое, што падобныя работы на Беларусі павінны былі выконвацца ўпершыню.

Ня так даўно мы зрабілі гадавую справаздачу новага прыходзкага савету, у склад якога я ўвайшоў на пасадзе старшыні. Вось тое, што мы змаглі зрабіць сумесна з грамадзкім камітэтам па выратаваньню Каложы, які год назад быў створаны пры Гарадзенскім гарадзкім выканаўчым камітэце.

Арганізавана міжнародная навукова-практычная канфэрэнцыя па праблемах Каложы, каб прыцягнуць увагу да нашай царквы навуковага сьвету вядучых спэцыялістаў-рэстаўратараў. Пралажылі высокавольтны кабель (каля аднаго кілямэтра) ад храма да бліжэйшай электрападстанцыі, зрабіўшы бясьпечнай сістэму энэргазабесьпячэньня царквы. Адрамантавана й пабелена агароджа царквы. Моцныя вятры ўвесну ўскрылі наяўны брак пры пакрыцьці даху. Прынялі тэрміновыя захады - і сарваныя бурай лісты бляхі былі замененыя, зроблены прафіляктычны рамонт "худых" месцаў даху. Сродкі даў гарвыканкам. За дзяржаўныя сродкі зроблены праэкт ахоўнай зоны, які ахоплівае 10 гэктараў вакол царквы. Маем матэрыялы ад праведзеных работ па даадшукваньню грунту, на якім стаіць храм. Завершана тэхніка-эканамічнае абгрунтаваньне па ўзмацненьню пагорка пад царквой. Вывезены для захоўваньня ў іншым месцы піламатэрыялы агульнай вагой больш за 15 тон, што раней рабілі дадатковую нагрузку на аварыйную сьцяну й псавалі інтэр'ер храма.

Але прыхадзкое жыцьцё не абмяжоўваецца толькі грамадзкім богаслужэньнем. У кожным прыходзе цэнтрам поўнага духоўнага жыцьця зьяўляецца прыходзкі дом. Калі ён ёсьць - гэта й памяшканьне для нядзельнай школы, каб навучаць Закону Божаму дзяцей і дарослых, і месца для духоўнай бібліятэкі. Ва ўмовах нашага прыходу - гэта й месца для стварэньня экспазыцыі па гарадзенскай школе культавага дойлідзтва (у тым ліку, й па Каложы) для турыстаў ды замежных дэлегацый. Цяжка зараз сабе ўявіць, як гэта раней прыход існаваў без свайго дому й усяго таго, што было пералічана.

Але патрэбны былі й грошы для таго, каб занядбайнае памяшканьне можна было прывесьці ў больш-менш прывабны выгляд хаця б унутры, правесьці там мясцовае паравое ацяпленьне, набыць сьціплую мэблю для царкоўнай школы. Нарэшце, патрэбны былі намаганьні, каб гарадзкі парк (малое прадпрыемства "Досуг") перадаў прыходу (пакуль што ў арэнду) дом па вул.Каложы, 6, што ў новым парку. Маем надзею, што з Божай дапамогай у бліжэйшы час дом гэты будзе перададзены на баланс царквы, бо ён ужо набыў грамадзка-царкоўнае значэньне і ўваходзіць у ахоўную зону вакол царквы.

Агульны кошт усяго зробленага за мінулы год (ад мая 1993 па май 1994 года) - больш за 15 млн. рублёў. Грошы паступалі ад юрыдычных і фізычных асобаў, з гарадзкога й дзяржаўнага бюджэтаў. Вялікі дзякуй усім за дапамогу.

У бліжэйшы час наша тэхніка-эканамічнае абгрунтаваньне будзе перададзена на экспэртызу францускай фірме "Бланшон" з горада-пабраціма Ліможа, дзе гэтая праца будзе зроблена бясплатна. Шкада, што фінансавая нестабільнасьць рэспублікі перашкаджае правесьці тэлемарафон на карысьць Каложы, але нават адразу ж пасьля чытаньня гэтых радкоў, кожны, у каго цепліцца агеньчык любові да нашай Радзімы-матухны, можа ўнесьці свой пасільны ўклад у гэтую Богаўгодную справу. Разьліковы рахунак N 700911 у "ПРЫОРБАНКУ" г.Горадня (код 718), Сьвята-Барыса-Глебская царква (Каложа). Можна проста прынесьці грошы ў храм, але ня трэба верыць тым, хто зьбірае іх на базарах ці іншых людных месцах, кажучы, што на храм на беразе Нёмана ( ды яшчэ й пацьвердзяць, што на Каложу, калі вы запытаецеся). "Храм над Нёманам" - гэта пратэстанцкае збудаваньне, якое ўзводзіцца ў раёне Румлёва.

Здавалася б, кола вялікай працы зрушылася з месца й будзе ўжо набіраць далейшы тэмп. Але...

У той час, калі вакол Каложы вялося пустаслоўе, выдатны беларускі рэстаўратар Сьлюнчанка (пачыўшы зараз у Бозе), з былога Беларускага рэстаўрацыйна-праэктнага інстытута, напрацаваў на Каложы вялікі дасьледчы матэрыял. Зараз справу свайго настаўніка працягвае Вадзім Гліньнік (увогуле больш за 10 гадоў), адзіны з беларускіх рэстаўратараў, хто мае міжнародны сэртыфікат або прызнаньне, вядомы па Полацкаму царкоўнаму комплексу. Год таму, калі паўстала пытаньне аб зацьверджаньні навуковага кіраўніка па рэстаўрацыі Каложы, па няпісаным законам рэстаўратарскай этыкі яно само сабой здымалася на карысьць вышэй адзначанай асобы. Але ж навукова-мэтадычны савет пры інспэкцыі па ахове гісторыка-культурнай спадчыны Міністэрства культуры неяк нечакана большасьцю галасоў аддае навуковае кіраўніцтва Г.Лаўрэцкаму. Здавалася б, савету ў сваёй большасьці больш бачна, каму трэба быць на гэтым месцы. Але тут ёсьць адно не зусім малое "але"...

Калі мы лічым, што Каложа й надалей павінна быць ня толькі храмам, але й помнікам сусьветнага прызначэньня, дык і патрабаваньні ж да яе павінны быць сусьветнымі. Гэта выходзіць па звычайнай логіцы нават не для прафэсіяналаў. Трэба заўважыць, што Г.Лаўрэцкі прытрымліваецца цэласнай рэстаўрацыі, у выніку якой нельга будзе адрозьніць збудаваньне 12-га стагоддзя ад сучаснага. Гэтага рабіць нельга, бо папросту можна страціць помнік. У гэтай думцы зацьвердзіла нас і міжнародная навукова-практычная канфэрэнцыя (некаторыя казалі, што яна ніякай карысьці не прынясе, а толькі дарма марнуюцца грошы). Знаныя спэцыялісты з Масквы, Санкт-Пецярбургу, Польшчы, Францыі адназначна прапануюць праводзіць рэстаўрацыю з улікам кансэрвацыі таго, што мы зараз маем. Менавіта такія патрабаваньні для помнікаў сусьветнага прызначэньня.

У створанай сытуацыі распрацоўка праэктна-каштарыснай дакумэнтацыі па рэстаўрацыі самой царквы можа быць адцягнута на неабмежаваны тэрмін, ды яшчэ й складзецца дрэннае дзелавое асяроддзе паміж звыш пастаўленым Г.Лаўрэцкім і арэндным прадпрыемствам "Беларускі рэстаўрацыйна-праэктны інстытут", якое ў нас зьяўляецца генэральным праектыроўшчыкам. Можа стацца так, што зноў трэба будзе фінансаваць тыя работы, што ўжо зробленыя, таму што інстытут папросту не дазволіць на сваіх матэрыялах камусьці набываць навуковы аўтарытэт. А ў выніку - зноў адцягваньне тэрмінаў, што даўно ўжо не на карысьць агульнай справе.



**Сьвятар Анатоль НЯРОБАЎ,**
**Настаяцель Сьвята-Барыса-Глебскай Каложскай Царквы**



# «...Віленшчына - гэта наша Бацькаўшчына»

**Са старшынёй Беларускага таварыства былых зьняволеных і гвалтоўна выселеных з Летувы аддзеламі НКУС спадаром Аляксеем АНІШЧЫКАМ гутарыць Уладзіслаў СТРУМІЛА.**

**- Спадар Аляксей, калі ўзьнікла думка аб стварэньні такой арганізацыі?**

- У Вільні й на Віленшчыне ад самага пачатку адраджэньня Летувы паўстала Летувіскае таварыства былых зьняволеных і высланых. Аднак на Віленшчыне, як вядома, немалая колькасьць беларусаў, якія пакутавалі шмат гадоў за сваю Бацькаўшчыну, за свае ідэалы, за ідэі. Дык вось, летувісы пачалі дапамагаць сваім людзям, якія вярнуліся да родных сядзібаў, дапамагаць і матэрыяльна, й маральна. Як вядома, на летувіскай мове выдадзена шмат кнігаў-успамінаў пра лягернае жыцьцё, пра тыя шляхі, якія людзі прайшлі ў сваіх нявымяральных пакутах. У Вільні паўстала таксама й польская арганізацыя палітзьняволеных, яна атрымоўвае дапамогу ад летувіскага ўраду й ад ураду сваёй бацькаўшчыны Польшчы. А вось беларускімі зьняволенымі ніхто не цікавіўся, ніхто не дапамагаў і не дапамагае, хаця пасьля заснаваньня й рэгістрацыі арганізацыі я некалькі разоў зьвяртаўся як да міністэрстваў, так і ў іншыя ўстановы з просьбай дапамагчы, бо сябры нашае арганізацыі - гэта ў асноўным пэнсіянеры, якія страцілі здароўе ды выйшлі ўжо з таго веку, калі можна было самастойна чагосьці дабіцца, калі нават здаровыя й адукаваныя людзі не заўсёды могуць знайсьці працу...



**- Я зразумеў, што вашая арганізацыя зьяўляецца самастойнай, а ня філіяй летувіскага таварыства. Колькі сяброў налічвае яна?**

- Цяжка сказаць, бо мы не вядзём спэцыяльнай рэгістрацыі. Акрамя таго, пакуль абмежаваліся толькі Вільняй і Віленшчынай. Людзей такіх ёсьць, безумоўна, шмат, але многія зьвяртаюцца ў тыя арганізацыі, якія могуць ім дапамагчы рэальна. А мы, на жаль, яшчэ ня можам гэтага зрабіць, вось таму людзі й ня йдуць пакуль да нас грамадой. Але я маю намер зьвяртацца да грамадзтва з рознымі прапановамі й просьбамі аб дапамозе й матэрыяльнай, і маральнай, каб нашыя тутэйшыя былыя палітзьняволеныя маглі мець дапамогу, а таксама надрукаваць свае ўспаміны.

**- Ці гэтыя ўспаміны ўжо пішуцца?**

- Так, людзі працуюць над гэтым. Што датычыць мяне, дык я пакуль заняты беларускімі справамі. Шмат пішу на тэму беларусаў і ў мясцовым летувіскім, і ў польскім друку, дасылаю таксама свае допісы й на Беларусь. Гэтая работа забірае шмат часу, але лічу, што раблю патрэбныя рэчы. А ўспаміны? Працую таксама й над успамінамі, мяркую, што яшчэ пасьпею напісаць.

**- Спадар Аляксей, а ці ёсьць якія-кольвечы кантакты з адпаведнымі арганізацыямі ў Беларусі? Магчыма, адтуль будзе нейкая дапамога?**

- Цеснага кантакту з менскімі арганізацыямі ў нас пакуль што не было па адной важкай прычыне: улада, якая кіравала да гэтага часу ў Менску, разьмежавала зьняволеных, чаго не было, між іншым, у Летуве. Наколькі я ведаю, менавіта на Беларусі ёсьць дзьве групы зьняволеных, першая з якіх выпадкова трапіла за краты і ў лягеры і якая сёньня дабілася рэабілітацыі, і другая група - гэта тыя людзі, якія мелі погляды антыбальшавіцкія, антыімпэрыялістычныя і якія часам у думках, а часта й на справе змагаліся супроць імпэрыялістычных захадаў і тых крокаў, якія рабіла Маскоўшчына ў сэньсе дэнацыяналізацыі - вось гэтыя людзі па сёньняшні дзень не атрымалі рэабілітацыі. Іх у менскую арганізацыю не прымалі, яны ня мелі й ня маюць там голасу, наколькі мне вядома. А тыя людзі, якія былі савецкімі, але выпадкова трапілі ў лягеры, мякка кажучы, адносіліся й адносяцца да нас стрымана, й пагэтаму ў нас з імі няма цеснага кантакту, не атрымалася супрацоўніцтва, хаця яны дасканала ведаюць, што мы тут існуем, бо паведамленьні аб існаваньні нашай арганізацыі былі нават у друку за акіянам. Я спадзяюся яшчэ, што наш новы прэзідэнт акажацца беларусам ня толькі паводле мэтрыкаў, але і ў душы, і што ён будзе апекуном беларусаў, дзе б яны ні жылі.

**- Дзе вы праводзіце свае сходы, дзе зьбіраецеся, каб проста пагутарыць?**

- У Таварыстве Беларускай Культуры, бо яно зьяўляецца сёньня асноўнай цэнтральнай арганізацыяй, аб'ядноўваючай усе нашыя суполкі ў адну, якіх на сёньняшні дзень ёсьць сем і якія працуюць больш-менш у адным кірунку й дбаюць аб захаваньні беларускасьці на Віленшчыне. А Віленшчына - гэта наша Бацькаўшчына, Бацькаўшчына беларусаў-віленчукоў, якія траплялі ў лягеры за актыўнасьць у беларускай справе.

**На здымках: спадар Аляксей Анішчык; помнік у сквэры ля былога КДБ у Вільні, збудаваны з камянёў, прывезеных са шматлікіх мясцовасьцяў, адкуль вывозіліся людзі.**

**Фатаграфаваў У.СТРУМІЛА.**

# ПАДАРОЖЖА Ў КРАІНУ КЕНГУРУ



**З борту аэробуса ІЛ-76 аўстралійскі золак выдаваўся фантастычным. Ціхі акіян у промнях сонца зіхацеў бурштынам. Ранішні прыбой нагадваў мірыяды агеньчыкаў, запаленых чыёйсьці ўмелай рукой. Дваццаціwith гадзінны пералёт Масква-Сыднэй скончыўся.**

## АЎСТРАЛІЙЦЫ

Першае, што кідаецца ў вочы чалавеку, трапіўшаму на шосты кантынэнт, гэта прастата й сьціпласьць аўстралійцаў. У адрозьненьне ад эўрапэйцаў і амэрыканцаў, аўстралійцы падкрэсьліваюць сваю сьціпласьць прастатой вопраткі. Варта толькі да іх зьвярнуцца, як адразу ж адчуеш іх выхаванасьць, высакароднасьць. Аўстраліец, будзь ён па паходжаньню з Азіі, Эўропы ці Афрыкі, можа доўга й дасьціпна тлумачыць госьцю ягонае пытаньне. Адступіць толькі тады, калі зразумее, што усё патлумачанае засвоена вамі дакладна. Істотнай рысай, што таксама розьніць аўстралійца ад іншых, зьяўляюцца яго адносіны да флоры й фауны. У нас забыліся даўно на такую справу, як падкарміць галубоў на вуліцы, а ў Аўстраліі па вуліцах вольна гуляюць кенгуру, якіх аўстралійцы з задавальненьнем кормяць з рукі. Тое ж тычыцца й птушак.

## У ГАСЬЦЯХ У БЕЛАРУСКАЙ ДЫЯСПАРЫ АЎСТРАЛІІ

Міжнародны кангрэс, прысьвечаны праблемам алкагалізму ў мястэчку GOLD COAST, у якім прымалі ўдзел гарадзенскія навукоўцы, закончыўся. Да адлёту маем яшчэ добры кавалак часу. Тэлефануем да Сыднэю на кватэру аўстралійскага беларуса Міхася Лужынскага. Праз колькі часу легкавік спадара Міхася імчыць нас ад GOLD COAST да Сыднэю. Міхась, хоць і ў гадах, але рухавы, дзелавы, а галоўнае - гаманлівы. У адзін момант селіць нас не ў шыкоўныя апартамэнты дарагіх гатэляў, а знаходзіць жытло ў цэнтры Сыднэя ўсяго за 13 аўстралійскіх даляраў за суткі. Не пасьпелі мы як сьлед разьмясьціцца, як спадар Лужынскі тут як тут. Сядаем зноў у легкавік Міхася, і пачынаецца аглядная экскурсія па гораду. Сыднэй, асабліва цэнтр, нагадвае вёску з адна- й двухпавярховымі катэджамі (мясцовыя жыхары так і называюць гэтую частку горада вёскай). У гэтай жа "вёсцы" ў шыкоўным двухпаверхавіку жыве й Міхась. Да яго на дрынк мы трапім падвячоркам, а да таго пасьпелі аглядзець горад. Небаскробаў у Аўстраліі ня шмат. Большасьць з іх збудаваны ўздоўж Сыднэйскай затокі. Легкавік імчыць ўздоўж берага Ціхага Акіяну. Гадзіна язды з хуткасьцю 100-130 кілямэтраў - і мы за горадам. Паўкі ўздымаемся на гару. Адсюль, як на далоні, відаць увесь Сыднэй. Міхась кажа, што гэта ягонае любімае месца. Адсюль ён любіць глядзець на Сыднэй. Паказаўшы на тэлевежу, Міхась спахапіўся. Беларусы Аўстраліі маюць сваю тэлепраграму, і ён жадае зарганізаваць нам выступ. Ізноў імчыць легкавік. На жаль, мы спазьніліся. У пятніцу ў Аўстраліі скарочаны дзень. Здаецца, што больш горычы адчуваем мы, а не спадар Лужынскі. Ён няўрымсьлівы й вядзе нас да сквэру, дзе вольна гуляюць кенгуру, лётаюць папугаі. Мы кормім іх проста з рук. Асалода ад кантакту з экзатычнай фаунай незвычайная. Але надыйшоў час ехаць да беларускага клюбу горада Сыднэя

Там нас чакаюць мясцовыя беларусы.

Беларускі клюб Сыднэя - гэта двухпавярховы будынак з невялічкім паркам-садам. У фае клюбу нас сустракаюць, працягваюць для вітаньня рукі. Пры паціску гучыць прыкладна так: "Я з Камянца, я з Лепеля, я з-пад Гомлі." Усе наперабой распытваюць, расказваюць. Безьліч разнастайнай інфармацыі й пытаньняў. Усё зафіксаваць ці расставіць у лягічную лінію немагчыма.

**Валяньцін Стукач, родам з-пад Гомлі.** Спадара Валяньціна хвалюе стаўленьне моладзі да мовы, гісторыі, беларускіх традыцый. Добра, па словах Валяньціна, засвоілі гісторыю, мову дзеці. Унукі, на жаль, ужо значна горш ведаюць мову й беларускую гісторыю. Непакоіць спадара Стукача й тое, што ў беларускім асяроддзі шмат зьмешаных шлюбаў, што, на думку Міхася, зьяўляецца галоўным негатыўным сымптомам. "Выйсьце адно - актывізаваць культурна-асьветніцкую дзейнасьць",- згадвае напасьледак В.Стукач. Відаць, ён мае рацыю, бо, ўбачыўшы нас, беларуская моладзь Сыднэя выявіла вялікую цікаўнасьць.

**Міхась Мілеўскі - сыднэйскі камэрсант.** Яго непакоіць стаўленьне мясцовай беларускай моладзі да бізнэсу. Маладыя, са словаў Міхася, жадаюць працаваць на дзяржпрадпрыемствах, установах. Толькі нязначная колькасьць юнакоў і дзяўчат хочуць мець сваю справу. Умовы для таго, каб наладзіць сваю вытворчасьць, ёсьць. Спадар Мілеўскі мае на ўвазе вопыт і матэрыяльны наробак папярэдніх пакаленьняў беларусаў. Пра сябе Міхась расказвае сьціпла. Яго жонка таксама не беларуска. Цешча за беларускасьць не любіла Міхася. Таму й перапісала свой дом з агародам на карысьць дзяржавы. Міхась не шкадуе аб гэтым, бо мае ў 400-х кілямэтрах ад Сыднэя шыкоўную вілу. Раніцой мы паедзем туды. Але найперш агледзім фірму Міхася па рамонту дамоў. Фірма невялікая, некалькі модуляў. Замоў хапае, абсталяваньне навейшае. Усё чысьцютка, дагледжана.

Віла - гонар спадара Мілеўскага. Яна ў два паверхі. Сад, дзе растуць лімонныя й апэльсінавыя дрэвы, і нават адно бананавае.

Час нашага побыту сярод беларусаў Аўстраліі дабягае фіналу. Міхась прагне паказаць нам яшчэ адну цікавостку - хваёвы гай, дзе між хвоек растуць грыбы рыжыкі. Для яго - гэта маленечкі кавалачак роднай Беларусі. Але часу, каб паспытаць далікатэс, не засталося. Вырашаем зрабіць гэта ў наступны раз. Усім гуртам беларусы Сыднэю праводзяць нас да летака. Бывай, няведамая дагэтуль Аўстралія. Бывайце, браты-беларусы, якія не забыліся пра свае карані, свае вытокі. Думаеш так, а да горла падступае тугі камяк.

**В. БУКО,**
**Горадня-Сыднэй-Горадня**

# ВЕСТКІ З ПОЛЬШЧЫ

Арганізацыя "Спульнота Польска", кампанія па справах палякаў у замежжы сэната РП і Саюз палякаў у Беларусі вырашылі дапамагаць будаўніцтву ў Беларусі польскіх школ й культурных ўстаноў.

У гэтым годзе Саюз палякаў у Беларусі атрымаў ад польскага ўраду каля 40 мільярдаў злотых на інвэстыцыі. Дзякуючы гэтай дапамозе будзе працягвацца будаўніцтва школ у Горадні й Ваўкавыску, а таксама дзесяці дамоў польскай культуры.

Згодна міжурадавым пагадненьням, паралельна з будаўніцтвам школаў, якія будуць фінансавацца польскім бокам, у Горадні будуецца польская школа за кошт беларускага бюджэту.

* * *

Грузавыя аўтамашыны танажом звыш 20 тон ня могуць карыстацца гранічным пераходам Кузьніца Беластоцкая - Брузгі. У сувязі з будаўніцтвам маста ў мясцовасьці Страж, а таксама з прычыны рамонту маста віядукта ў самой Кузьніцы грузавы транспарт накіроўваецца ў КПП Баброўнікі. Рамонт скончыцца ў кастрычніку гэтага года.

* * *

Завяршыліся польска-расейскія гандлёвыя перамовы на пастаўку чыгуначных цыстэрнаў для перавозкі газу прапан-бута. Маскоўская фірма "Газкомплексимпекс" заказала ў Польшчы 340 такіх цыстэрнаў коштам 30 млн. даляраў.

* * *

Прэзыдэнт Лех Валэнса адкрыў у Варшаве ў Цэнтры амэрыканскай кампаніі "Протэр энд Гэмбэл" самую вялікую інвэстыцыю гэтай фірмы ў Сярэдняй Эўропе - фабрыку пялюшак "Пампэр".

**По матэрыялах польскага друку.**

# ВІЛЕНСКІЯ ПАВЕДАМЛЕНЬНІ

З першага ліпеня можна прадаваць зямлю. На сёньняшні дзень у Летуве ўжо налічваецца 120 тысяч уладальнікаў зямлі, аднак толькі 30 тысяч з іх да канца выканалі ўсе фармальнасьці. Ніхто ня ведае сапраўдную цану зямлі, аднак з назіраньняў вынікае, што шэсьць араў зямлі пад будаўніцтва ў горадзе каштуюць 12 тысяч літаў, у вёсцы - 1200 літаў. Адзін гэктар пад гаспадарку - 1500-2000 літаў. Найбольш танна гэктар каштуе 1000 літаў, ля горада - 3 тысячы літаў. Адзін гэктар лесу - 1700-3000 літаў.

* * *

Камісія летувіскай мовы праверыла на вуліцах Вільні аб'ём ужываньня дзяржаўнай мовы. З прыкрасьцю ўстаноўлена, што ў некаторых арганізацыях дамінуе ангельская мова. Шмат надпісаў на гэтай мове ёсьць у аэрапорце, на чыгунцы, у гатэлях і на поштах.

Засталося таксама нямала старых надпісаў, дзе фігуруе яшчэ назва Літоўская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка.

* * *

У Віленскім ўнівэрсітэце адкрыты летнія курсы летуаністыкі. Вучацца на іх дзеці эмігрантаў, а таксама людзі, якія цікавяцца летувіскай гісторыяй і мовай. Слухачы курсаў плацяць за навучаньне й утрымліваюць сябе самі. Курсы каштуюць 500 даляраў.

* * *

У гэтым годзе першы курс у Акадэміі Паліцыі скончылі 463 будучых паліцэйскіх. Яны атрымалі ўжо кваліфікацыю й могуць працаваць у паліцэйскіх камісарыятах.

Ступень бакалаўра пасьля заканчэньня трэцяга курса прызначана 237 асобам, сярод якіх 60 дзяўчат. Прымаць іх Акадэмія Паліцыі пачала тры гады назад.

**Уладзіслаў СТРУМІЛА.**

# АПОШНЯЯ СТАРОНКА



**А ВЫ КАЛІ-НЕБУДЗЬ КАРМІЛІ БУСЛА З ДАЛОНІ?..**
**Фатаграфаваў Станіслаў КАКАТЛІВЫ.**

## МУЗЭЙНАЯ ГАСЬЦЁЎНЯ

У Берасьці па вуліцы Пушкіна,38, амаль сутыч калгаснага рынку, разьмясьціўся новы асяродак культуры - "Музэйная гасьцёўня". Гэта своеасаблівая выставачная заля вабласнога краязнаўчага музэю, а з іншага боку гледжаньня - прыгожае месца сустрэч і дыскусій. Адлік дням гасьцёўні паклала выстава Анастасіі Фяцісавай "Міражы пад старым Берасьцем". Мастачка з дапамогай кансультанта па гісторыі ўзнавіла на сваіх палотнах відарысы старажытнага Берасьця.

З удзелам мясцовых уладаў, фундатараў, якія адклікаюцца на просьбы музэйных работнікаў, паступова будзе ажыцьцяўляцца праэкт стварэньня музэя старога Берасьця. У хуткім часе вабласны краязнаўчы музэй атрымае яшчэ новыя экспазыцыйныя плошчы, а новыя музэі адкрыюцца ў Пінску, Баранавічах, вёсцы Моталь Іванаўскага раёна Берасьцейшчыны.

Адно скажу, што гаспадыняй "Музэйнай гасьцёўні" стала Тацьцяна Міхайлаўна Ходцава - чалавек шчыры, гасьцінны, выдатны знаўца сівой даўніны й цікавы субсеседнік.

**І.ПЯТРОЎ, г.Берасьце.**

# КРЫМІНАЛЬНАЯ ХРОНІКА

**Апошняя сямідзёнка ліпеня прайшла без прыкметных зьменаў у крымінальным календары. Усяго зарэгістравана 120 злачынстваў і 70 здарэньняў. У іх ліку 3 забойствы, 16 цялесных пашкоджаньняў, 3 рабаваньні й столькі ж згвалтаваньняў, 80 крадзяжоў. За гэты ж час 39 злачынстваў раскрыта.**

**У 21 дарожнай аварыі адзін чалавек загінуў і 28 - паранена. Яшчэ адзін чалавек стаў ахвярай пажару, якіх за тыдзень зафіксавана восем.**

**Аднак, як і раней, па колькасьці пацярпелых наперадзе - здарэньні на вадзе, дзе загінула 19 чалавек.**

**І ПАДНЯЛАСЯ РУКА...**

Тры забойствы, учыненыя на гэтым тыдні, уражваюць сваёй жорсткасьцю. Цяжка прадказаць, якія матывы рухалі злачынцамі ў той час, калі яны паднялі руку на другога чалавека.

На лесьвічнай пляцоўцы інтэрната ў в.Лепчаняты Смаргонскага раёна з цялеснымі пашкоджаньнямі галавы быў знойдзены труп 40-гадовага будаўніка к-са "Савецкая Беларусь". Забойца, швагер ахвяры, расправіўся са сваяком ударам мэталічнай трубы.

* * *

На цёмнай вуліцы в.Альхова Ваўкавыскага раёна дэмабілізаванаму са спэцназа МУС К. хапіла некалькіх ўдараў кулаком у твар і галаву, каб пазбавіць жыцьця 15-гадовага школьніка Рэпляўскай СШ.

Прычына? Вельмі "важкая": трое хлапчукоў крыкнулі ўсьлед нешта крыўднае дарослым дзецюкам, якія ехалі па вясковай вуліцы на легкавіку. Калі ж "вясельныя" пасажыры выскачылі з перапоўненага "Запарожца", каб правучыць падлеткаў, тыя кінуліся наўцёкі, але, як бачна, гэта не выратавала аднаго з іх ад жорсткай пагоні. Цікава, што і забойца, і ахвяра характарызаваліся як законапаслухмяныя й станоўчыя грамадзяне.

* * *

Трэці выпадак, які адбыўся ў в.Сухаўляны Гарадзенскага раёна, таксама цяжка асэнсаваць.

Тут злачынец, дарэчы, ужо абцяжараны судзімасьцю, так распаліўся, што падчас сваркі спачатку забіў нажом сталага ўжо гаспадара ў яго ўласным двары, а потым увварваўся ў дом, дзе згвалтаваў 54-гадовую сястру ахвяры.

**ПАГНАЛІ НАШЫ ГАРАДЗКІХ**

Яшчэ адно здарэньне зафіксавана каля клуба в.М.Ёдкавічы Бераставіцкага раёна. Менавіта каля гэтай культурнай установы адбылася сутычка паміж вясковай моладдзю й заежджымі гарадзенцамі. У бойку ўмяшаўся бацька мясцовага хлопца, якога, бысцам, пабілі гарадзкія.

У якасьці раўнавагі трактарыст мясцовага калгаса выставіў паляўнічую стрэльбу, пры выглядзе якой залётныя камэрсанты спрабавалі ўцячы на "Мэрсэдэсе". Вясковец, аднак, "не разгубіўся" й даслаў ім усьлед ладную порцыю шроту. Сьведкі кажуць, што драбіны ўсё ж крыху сапсавалі ганарлівы глянец на іншамарцы.

Зараз здарэньнем займаецца мясцовая міліцыя. Кажуць, справа йдзе да прымірэньня...

**ГАРЫМ!**

У гэты сьпякотны час ўзрасла магчымасьць узьнікненьня пажараў. Прычыны загараньняў вельмі розныя й нярэдка даволі нечаканыя.

На полі калгаса "Пагранічны" Бераставіцкага раёна агонь узьнік ад удару мэталічных грабляў аб камень падчас валкаваньня саломы ячменю. У выніку, згарэлі 2 гэктары на 7 млн. рублёў.

* * *

На экспэрымэнтальнай базе "Руткевічы" Шчучынскага раёна ад іскры, якая ўзьнікла ад пападаньня камэня ў паветравод, загарэўся пакрыты шыферам навес з саломаю. Урон склаў 12 млн. рублёў.

* * *

Але здараецца часам, што пажар - справа рук злачынцы.

Так, 15-гадовы гарадзенец падпаліў стог сена ля сядзібнага надзелу, які належыў жыхару прыгараднай вёскі Граньдзічы.

Яшчэ адно "гаручае" здарэньне зафіксавана ў вабласным цэнтры па вул.Рэпіна. Там на лесьвічнай пляцоўцы дома N 45 30-гадовы гарадзенец з мэтай самагубства абліў сябе бэнзінам і падпаліў. Праз суткі мужчына памёр у бальніцы.

**Г.СЫСОЙ.**

## ДЭБЮТ АКАЗАЎСЯ НЯЎДАЛЫМ

На жаль, няўдала выступілі юнакі зборні Беларусі на першым у іх жыцьці чэмпіянаце Эўропы, які адбыўся ў Гішпаніі. У стартавай гульні нашы футбалісты з лікам 0:3 прайгралі Нямеччыне. Другі матч таксама прынёс непрыемнасьці, бо гаспадары поля перамаглі з лікам 4:1. Апошняя сустрэча з расейскай камандай яшчэ давала магчымасьць зборні Беларусі паспрачацца за 5-6 месца, але паражэньне (2:3) пазбавіла нават гэтага суцяшальнага выніку. Такім чынам, беларускія футбалісты занялі апошняе месца на чэмпіянаце. Дарэчы, у складзе каманды выступаў і форвард гарадзенскага "Нёмана" Павел Пузына.

## НЕ АТРЫМАЛАСЯ

Галоўны матч чацьвёртага тура чэмпіяната Беларусі па футболу адбыўся ў панядзелак у Горадні. "Нёман", які напярэдадні сэнсацыйна перамог у Менску "Дынама-93" (4:1), меў шанц спыніць лідара - віцебскі КІМ. І для гэтага былі ўсе падставы. Тыдзень таму назад гарадзенскі клюб заключыў дамову аб супрацоўніцтве з камандай другой лігі "Кардан Флаерс". Згодна з ёй дазваляецца абмен гульцамі паміж калектывамі. І вось на полі ў сустрэчы з КІМам мы ўбачылі гарадзенскую "зорку" футбола Сяргея Саладоўнікава.

Ветэран, безумоўна, стараўся і неадной-чы мог забіць мяч. Аднак лідар, зрабіўшы стаўку толькі на абарону, зьбярог сваю браму. Адна з нямногіх контратак гасьцей на 78-й хвіліне прынесла ім посьпех. Правы абаронца Сяргей Гурэнка замарудзіў з прыёмам мяча, і віцебская "ракета" Міхась Пацко на вялікай хуткасьці ўварваўся ў штрафную пляцоўку, і моцна прабіты ім мяч у левы ад Рыбака кут трапіў да сеткі. Гэты гол аказаўся пераможным для КІМа.

Вось вынікі астатніх гульняў: "Абутнік" (Ліда) - "Шыньнік" (Бабруйск) -2:1, "Дынама" (Берасьце) - "Тарпеда" (Менск) - 0:1, ФК "Маладзечна" (Маладзечна) - "Фандок" (Бабруйск) - 0:0, "Шахцёр" (Салігорск) - "Дынама" (Менск) - 1:2, "Тарпеда" (Магілёў) - "Гомсельмаш" (Гомель) - 0:1, "Дынама-93" (Менск) - "Ведрыч" (Рэчыца) - 3:0. Матч паміж віцебскім "Лакаматывам" і магілёўскім "Дняпром" перанесены.

Наступны тур адбудзецца 6-7 жніўня. У нядзелю абодва гарадзенскія клюбы будуць гуляць у гасьцях: "Нёман" - у Магілёве з "Дняпром", а "Абутнік" - у горадзе на Сожы з "Гомсельмашам".

## «НЁМАН» ПАПЛЫЎ

Адразу адзінаццаці хакейстаў не далічыўся трэнер хакейнай каманды "Нёман" Анатоль Варывончык, калі клюб прыступіў да трэніровак. Невядома куды "прапалі" Іван Шышоў, Аляксей Кузьмін, Яўген Ступка, Аляксей Манахаў. Лепшыя абаронцы Сяргей Фядотаў і Алег Лявоньцьеў захацелі вярнуцца на радзіму - у Саратаў. "Металург" з Новакузьнецку запрасіў Аркадзя Паўлючэнку й Аляксея Гіро, менскі "Цівалі" - Канстанціна Фралова й Паўла Мікульчыка. Васіль Чыжоў зьбіраецца ў Уфу, дзе, магчыма, адзене форму "Салават Юлаева".

Пад вялікім пытаньнем і прабываньне ў камандзе Андрэя Кошкіна й Аляксандра Пстыгі, бо хлопцы зноў імкнуцца ў Польшчу. Ёсьць зьмяненьні і ў трэнерскім штабе: звольнены трэнер Яўген Лебедзеў. Магчыма, ня вернецца ў клюб пасьля адпачынку й выконваючы абавязкі прэзідэнта Ўладзімір Шэнько.

Навічкоў пакуль толькі трое - гэта Ігар Гальчын (ён прыехаў з падмаскоўнай Электрасталі) і выхаванцы мясцовай дзіцячай хакейнай школы Саша Клімук і Косьця Сырэль.

Цяпер "Нёман" праводзіць трэніровачны збор у Наваполацку. Там жа з 12 па 15 жніўня гарадзенская каманда прыме ўдзел у Кубку Фэдэрацыі, а яе сапернікамі будуць "Юнацтва" (Менск), "Палімір" (Наваполацк) і "Камінафта"(Ніжні Адэс).

**Г.ВАСІЛЕВІЧ.**

## ВАЎЧЫЦА – ДРУГАЯ МАЦІ!

Калі ў сям'і гарадзенцаў Ігара й Надзеі К. нарадзіўся першынец Кірыл, радасьці бацькоў не было меры. На жаль, радасьць хутка зьмянілася сумам. Лекары выявілі ў немаўляці цэрэбральны параліч. Масаж, цыркулярны душ, спэцыяльная фізкультура давалі вынікі - хвароба мала-памалу адступала. Тры гады дэкрэтнага адпачынку Надзеі праляцелі. Для хлопчыка нанялі няньку, але паўнавартаснай замены маці хворае дзіця не здабыло. Прагулкі на Нёман, паездкі ў лес, на лецішча толькі часткова кампэнсавалі хлопцу недахоп кантакту з акаляючым асяроддзем. Знаёмыя радзілі бацькам завесьці ў доме сабаку ці якую-кольвечы іншую жывёлу. Параіўшыся са спэцыялістамі мясцовага заапарку, бацькі вырашылі купіць дзіцяці ў якасьці падарунка маладое ваўчанё-самачку, бо, па словах тых, хто працуе побач з драпежнікамі, у ваўчыц вельмі магутна разьвіты мацярынскі інстынкт.

У Беларусі ж набыць маладое ваўчаня немагчыма. Існуе пастанова ўраду аб забароне трыманьня ў кватэрах драпежнікаў. Пакупку зьдзейсьнілі ў адным з зьвярынцаў Расеі. Расіяне прапанавалі гарадзенцам 4-месячную, з вельмі лагодным характарам ваўчыцу. Прыкладна два гады жыве яна ў сям'і. З першага дня ваўчыца настолькі палюбіла хлопчыка, што не адыходзіць ад яго ні на хвіліну. Калі ў кватэру прыходзяць мэдыкі, каб лекаваць хлопца, ваўчыца мірна ляжыць побач. Падчас душа альбо ванны, калі яе падапечны знаходзіцца ў вадзе, яна вішчыць і з усіх сілаў імкнецца выцягнуць дзіця з вады. Толькі хвораму ваўчыца дазваляе цягаць сябе за вушы, хвост, дзёргаць за поўсьць. Бывае й такое, што з дапамогай зубоў ваўчыца ўзвальвае Кірыла сабе на сьпіну й доўга возіць яго па кватэры. Хоць гэта й рэдка бывае, але ў такі момант, па назіраньнях бацькоў, хворы сын і ваўчыца па-сапраўднаму шчасьлівыя. Па іх словах, з таго дня, як яны падарылі дзіцяці такі своеасаблівы прэзэнт, ён перастаў плакаць, наадварот, мае заўжды добры настрой і апетыт.

**Г.АСТРОЎСКІ.**

## САСТУПКІ, АЛЕ АБМЕЖАВАНЬНІ

Упершыню за апошнія 15 год 500 іранскіх жанчын атрымалі магчымасьць прысутнічаць на стадыёне на матчы футбольных зборняў Ірана й Індыі, паведамляе "Новая ежедневная газета". Для прыхільніц быў адведзены сэктар з асобным уваходам.

Пэрспэктыва зьяўленьня прадстаўніц прыгожага полу на футбольных матчах выклікала рэзкае супраціўленьне з боку захавальнікаў традыцый Ісламскай рэвалюцыі 1979 года.

Аднак ва ўмовах нарастаючай ў краіне футболаманіі, выкліканай тэлевізійнымі трансьляцыямі з ЗША матчаў фінальнага турніра Кубка міра, яны былі вымушаны саступіць. Цікава, што рэпартажы з Амэрыкі перадаваліся па дзяржаўнаму тэлебачаньню Ірана з 5-секундным спазьненьнем, неабходным для цэнзуры. Яна "выразала" усё, што датычылася прыхільнікаў на трыбунах, асабліва кадры "надта аголеных жанчын".

**СІМ**

**"ПАГОНЯ"**
**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ**
**Заснавальнік:**
**культурна-асьветніцкі фонд "БАЦЬКАЎШЧЫНА".**
**Адрас рэдакцыі: 230023, г.Горадня, вул.Дамініканская, 1.**
**Тэлефоны: 45-29-96, 45-41-83.**
**Газета выдаецца па пятніцах 4 разы на месяц.**
**Індэкс 63124. Ліцэнзія № 465.**
**Фотанабор, афсэтны друк.**
**Гарадзенская вабласная ўзбуйненая друкарня: 230003, г.Горадня, вул.Паліграфістаў,4.**
Заказ 3095.
Тыраж 3713 асобнікаў.